# РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА «Рух «За Свабоду» Выпуск №6 чэрвень 2016 году



## Іспыт для ўладаў

**Правацэнтрысцкая кааліцыя, у якую ўваходзяць Рух «За Свабоду», Аб'яднаная грамадзянская партыя і аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», узгадніла спіс прэтэндэнтаў у кандыдаты ў дэпутаты па 95 са 110 выбарчых акругаў.**



Паводле слоў першага намесніка старшыні руху «За Свабоду» Юрыя Губарэвіча, прэтэндэнты ад правацэнтрысцкай кааліцыі будуць вылучацца як шляхам збору подпісаў, так і ад палітычнай партыі. «Мы хочам улічыць вопыт папярэдніх кампаній, калі адным з самых слабых месцаў, на якое можа націснуць улада,

**працяг на стар. 2-3**

## Мілінкевіч: Вінавата не толькі дыктатура



**На восень запланавана справаздачна-выбарчая канферэнцыя Руху «За Свабоду», на якой будзе абрана новае кіраўніцтва арганізацыі. Ці сыдзе Аляксандр Мілінкевіч з палітыкі? І калі так, дык каго ён рыхтуе ў пераемнікі?**

Навошта прадстаўнікі Руху ідуць на парламенцкія выбары, калі выбарчае заканадаўства не зменена і відавочна, што выбары адбудуцца па добра вядомым сцэнарыі? Чаго не хапае беларускай апазіцыі для поспеху? Пакуль яшчэ старшыня Руху «За Свабоду» адказаў на гэтыя і іншыя пытанні ў інтэрв'ю «Народнай Волі».

**— Аляксандр Уладзіміравіч, дык справаздачна-выбарчая канферэнцыя — гэта проста абавязковая фармальнасць ці вы сапраўды збіраецеся сысці з палітыкі?**

— Я пакуль не магу дакладна казаць пра ўсе расклады — мы якраз зараз актыўна абмяркоўваем, як далей кіраваць

**працяг на стар. 4-5**

# Іспыт для ўладаў (працяг ад стар. 1)

каб не зарэгістраваць кандыдата, была падача падпісных лістоў і прызнанне іх несапраўднымі. Таму мы будзем прасіць АГП падстрахаваць нас і вылучыць нашых прэтэндэнтаў кандыдатамі на з'ездзе», – сказаў ён.

Губарэвіч паведаміў, што правацэнтрысцкая кааліцыя падрыхтавала сумеснае пасланне, якое будуць выкарыстоўваць кандыдаты ў дэпутаты. «Яго пункты тычацца супольных каштоўнасцяў, якія нас аб'ядноўваюць. Гэта свабода, годнасць асобы, дэмакратычнае ўладкаванне Беларусі, унікальнасць беларускай мовы і нацыянальных традыцый. Мы выступаем за еўрапейскі выбар Беларусі як спосаб адстойвання нашых нацыянальных інтарэсаў і гарантыю ўстойлівага развіцця дзяржавы і грамадства», – адзначыў ён.

Таксама сярод галоўных прыярытэтаў праграмы, сказаў Губарэвіч, значацца «аднаўленне дэмакратыі, вяртанне парламенцкай формы кіравання і правядзенне палітычных рэформаў, барацьба з карупцыяй, супрацьдзеянне пагрозам суверэнітэту з боку Расіі, максімальнае збліжэнне з краінамі Еўрасаюза, шырокае інфармаванне грамадзян аб перавазе еўрапейскага выбару краіны».

Асобна Губарэвіч адзначыў, што правацэнтрысцкая кааліцыя «на сёння з'яўляецца адзінай паслядоўнай праеўрапейскай сілай унутры Беларусі». «На гэтых прынцыпах мы і будзем будаваць кампаніі нашых кандыдатаў», – падкрэсліў ён.

Губарэвіч лічыць, што парламенцкія выбары, якія адбудуцца 11 верасня, пройдуць «не так гладка», як кажуць прадстаўнікі ўлады.



«На некаторых нашых прэтэндэнтаў ужо робіцца ціск, у прыватнасці па месцы працы», – адзначыў адзін з кіраўнікоў Руху.

Між тым, згодна з рашэннем Рады Руху «За Свабоду», 44 чалавекі былі накіраваныя ў склад акруговых і яшчэ 4 – тэрытарыяльных камісій. Сярод іх – юрысты, людзі якія прайшлі некалькі выбарчых кампаній у якасці кандыдатаў ці назіральнікаў, з рэальным досведам і веданнем заканадаўства. У выніку ў выбаркамах апынуліся толькі двое рухаўцаў – з Віцебскай вобласці.

На сумесным пасяджэнні Мінскага гарадскога выканаўчага камітэту і савета дэпутатаў спіс з 21 чалавек, якіх вылучыў у склад абласной і акруговых камісій Рух «За Свабоду», нават не сталі разглядаць. Чыноўнікі выкарысталі для гэтага фармальную прычыну: апіску, якую знайшлі ў пратаколах. «На пратаколах адсутнічае назва кіруючага органа арганізацыі. У сувязі з гэтым, не прадстаўляецца магчымым вызначыць правамоцнасць пратаколу», – сказаў чыноўнік.

«Наменклатура ў сваім звычайным рэжыме: усё вырашаецца сваім 'райкамам'. Ім трэба статысты. Упэўнены, як высокакваліфікаваны юрыст, праваабаронца ды сумленны чалавек Тамара Сідарэнка аднаznачна павінна была б быць не толькі ў складзе, але і ўзначальваць не толькі акруговую, але і Цэнтральную выбарчую камісію», – пракаментаваў сітуацыю з адмовай па 101-й акрузе намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Алесь Лагвінец.

Па ягоных словах, «рэжыму не трэба справядлівыя і празрыстыя працэдуры». «Яму вельмі не хочацца, каб галасы беларусаў лічылі», – заключыў Лагвінец.

«Ад Руху «За Свабоду» мы вылучалі прадстаўнікоў на ўсе акругі Віцебскай вобласці, плюс у абласную камісію», – падвынікаваў сябра Руху «За Свабоду» Аляксей Гаўруцікаў. Па ягоных словах, прапусцілі двух – Георгія Станкевіча па Лепельскай акрузе № 23 і Міхаіла Гіля па Пастаўскай акрузе № 29.

Гаўруцікаў адзначыў, што яму далі выступіць у абарону вылучэнцаў, але фактычна не ўлічылі інфармацыю. Напрыклад, адкінулі кандыдатуру Юрыя Нагорнага, які быў старшынём Бараньскага гарвыканкаму, Леаніда Гаравога, у якога вялікі досвед назірання і ён быў дэпутатам, а таксама



і яго самога (Гаўруцікава), не ўлічыўшы юрыдычную адукацыю, таго, што ён быў дэпутатам і сябрам участковай камісіі.

«Гэта быў першы іспыт для ўладаў. І гэты іспыт быў завалены. Нягледзячы на ліберальную рыторыку пра змены ў працэсе выбараў і большую галоснасць і адкрытасць, падыход не змяніўся. Чыноўнікі галасавалі паводле загадзя складзенага спісу. Праўладным арганізацыям – БРСМу і «Белай Русі» – было «зялёнае святло, а для незалежных месца не знайшлося», – сказаў першы намеснік старшыні Руху Юрась Губарэвіч.

На ягонае меркаванне, улады плануюць дзейнічаць па ранейшым сцэнарыю, калі патрэбныя ім вынікі дасягаюць шляхам фальсіфікацый. «І ў парламент трапляюць не тыя людзі, якія маюць рэальную грамадскую падтрымку, – адзначыў першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду«. – Ва ўмовах крызісу зараз для ўладаў існуе рэальная небяспека пусціць выбары на самацёк, пакінуць іх без кантролю, а ва ўмовах свабодных і справядлівых выбараў улада рызыкуе не толькі прапусціць у парламент некалькіх апазіцыянераў, але і страціць «кантрольны пакет»».





Распачынаецца кампанія назірання «Права выбару. Яе ўдзельнікі разлічваюць мабілізаваць як мінімум тысячу назіральнікаў. «Права выбару» збіраецца сканцэнтраваць назіранне на некалькіх акругах, на якіх вылучуцца самыя моцныя апазіцыйныя кандыдаты. Адной з найважнейшых задач будзе фіксацыя яўкі.

Назіральнікі ў Беларусі – больш, чым проста назіральнікі, зазначыў адзін з нацыянальных каардынатараў кампаніі «Права выбару», кіраўнік Руху «За Свабоду» па Магілёўскай вобласці Аляксандр Сілкоў.

«Назіральнікі – гэта самыя галоўныя нашы баявыя адзінкі. Не было б іх, не было б заключэнняў па выбарах», – падкрэсліў Сілкоў.

Тысячы назіральнікаў для правядзення кампаніі назірання – мала, сказаў Сілкоў. Але трэба мець на ўвазе, што яны павінны быць падрыхтаванымі: прайсці навучальны трэнінг, здаць тэсты і толькі потым могуць прыступіць да назірання.

«Тысяча – гэта аснова», – сказаў ён.

Ён лічыць, што ўладам «прыйдзецца папрацаваць», каб забяспечыць яўку ў 50%, назіральнікі павінны будуць адсочваць, каб не было «каруселяў», падвойнага галасавання.

Усяго ў гэтым годзе да «Права выбару» далучыліся восем грамадска-палітычных сіл: аргкамітэт БХД, БСПД, Партыя БНФ, АГП, Рух «За Свабоду», Беларуская партыя «Зялёныя», аргкамітэт па стварэнні Партыі свабоды і прагрэсу і незалежны прафсаюз РЭП.

І была выключаная кампанія «Гавары праўду». Як тлумачаць удзельнікі, з-за недаверу.

«Да гэтага часу асноўная прэтэнзія як унутраных, так і знешніх назіральнікаў зводзілася да таго, што яны ўвогуле не бачаць пры падліку галасоў, што знаходзіцца ў бюлетэнях. Цяпер Цэнтрвыбаркам заявіў, што выбарчыя камісіі не павінны закрываць сваімі спінамі падлік галасоў. Часткова гэта здымае прэтэнзію, але паколькі адначасова некалькі членаў камісіі будуць падлічваць бюлетэні, то назіральнік усё роўна не будзе бачыць агульнай карціны», – адзначае палітычны аглядальнік Паўлюк Быкоўскі.

# Мілінкевіч: Вінавата не толькі дыктатура (працяг ад стар. 1)

Рухам, якія стратэгіі выпрацоўваць.

**— А вы самі маеце жаданне застацца старшынём?**

— Калі я патрэбны арганізацыі, то безумоўна. Калі адчую, што моладзь дыхае ў спіну і будзе лепш за мяне спраўляцца з абавязкамі старшыні, што патрэбны надаць нейкі новы імпульс арганізацыі, — я магу быць ганаровым старшынёй ці проста шараговым сябрам. Але Рух я не пакіну.

Варта адзначыць, што ў нас няма такой напружанасці, быццам нехта спрабуе застацца ў кіраўніцтве на векі вечныя. Я сам лічу, што дынаміка развіцця любой арганізацыі час ад часу патрабуе змены кіраўніка.

**— Сёння пакуль што Рух «За Свабоду» асацыіруецца менавіта з вамі.**

— Гэтая арганізацыя ствaралася з прыцэлам, што Мілінкевіч ізноў пойдзе на прэзідэнцкія выбары. Але я не пайшоў, бо не адбылося аб'яднання апазіцыі. І лічу, што ў такіх выпадках удзел у прэзідэнцкіх выбарах — гэта проста дэманстрацыя сваіх амбіцый. А мне гэта не патрэбна. Я хачу мець канкрэтны вынік.

**— А што скажаце наконт маючых адбыцца восенню парламенцкіх выбараў? Калі не памыляюся, сябры Руху маюць намер паўдзельнічаць...**

— Так, мы грамадская арганізацыя, але маем палітычныя мэты. У нас нават у статуце напісана: дамагацца справядлівых дэмакратычных выбараў. Дзіўна, але нам такі статут зацвердзілі. Таму мы ў выбарах сапраўды ўдзельнічаем. Але згодна з беларускім заканадаўствам мы не можам вылучаць сваіх кандыдатаў — яны павінны ісці і самастойна збіраць подпісы. Што, можа, і някепска. Бо гэта дадатковы шанц сустракацца з людзьмі, паглядзець адзін аднаму ў вочы, прэзентаваць сябе і гэтак далей.



Мы маем людзей, якіх будзем падтрымліваць на выбарах. Гэта сябры не толькі руху, але і розных партый. Адзіная ўмова — праеўрапейская арыентацыя. Бо мы лічым, што Беларусь павінна імкнуцца да ўступлення ў Еўрасаюз. Гэта наша прынцыповая стратэгічная мэта. І калі хтосьці будзе казаць, што ён выступае за грунтоўны саюз з Расіяй, зразумела, мы яго не падтрымаем. А іншыя ідэалагічныя адрозненні для нас вялікага значэння не маюць. Мы будзем падтрымліваць і сацыял-дэмакратаў, і сябраў Партыі БНФ.

**— Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына нядаўна адзначыла, што, магчыма, нейкія змены ў Выбарчае заканадаўства будуць уносіцца, але толькі пасля выбараў, а Аляксандр Лукашэнка заявіў, што выбары адбудуцца па звычайным сцэнарыі. Пры такіх умовах ці ёсць увогуле сэнс ісці на выбары?**

— Гэта вечная дыскусія. Мне падаецца, кожны палітык перш за ўсё сам сабе павінен адказаць на простае пытанне: чаго ён хоча дамагчыся падчас парламенцкіх выбараў? Бо на любых выбарах людзям трэба агучыць сваю мэту, патлумачыць, навошта ты ідзеш у палітыку. І калі гэта мэта, напрыклад, прадэманстраваць маральную пазіцыю і заявіць: «Не хачу ўдзельнічаць у брудных гульнях з фальсіфікацыямі!» — канешне, тады трэба выбіраць байкот. Але ў нас

няма сіл, каб зрабіць байкот.

Таму я лічу, што трэба ўсё роўна ісці на выбары. Для Руху «За Свабоду» вельмі важна змяняць мысленне людзей, паказваць, што ёсць магчымасці іншага шляху развіцця, а гэта немагчыма рабіць, седзячы на канапе. Проста адмаўляючыся ад удзелу ў выбарах, мы нічога не зменім. Будзе больш дэпрэсіі ў грамадстве, людзі скажуць, што няма ніякай альтэрнатывы, што ў Еўропе нас ніхто не чакае. Таму трэба ісці, каб пераконваць. І каб перамагаць.

Канешне, сёння апатыя ў грамадстве вялікая. Аднак калі не ўдзельнічаць у парламенцкай кампаніі, змены прыйдуць яшчэ пазней.

**— Паводле вашай логікі людзі хоць пабачаць твары дэмакратаў, бо па тэлебачанні апазіцыю даўно ўжо не паказваюць.**

— Я вось яшчэ што думаю: можа, на выбары хадзіць трэба меншай колькасцю, але больш якаснай. Не сакрэт, што ў апазіцыі ёсць людзі, якія выдатна прамаўляюць толькі лозунгі. Калі ў іх пытаюцца пра канкрэтную праграму дзеяння, ацэнку грамадска-палітычнай і эканамічнай сітуацыі, яны дэманструюць даволі слабыя веды. А дэмакратычным колам важна паказаць, што сярод іх нямала людзей адукаваных, разумных, адказных. На мой погляд, гэта вельмі важна.

**— Аляксандр Уладзіміравіч, а вы за столькі гадоў не стаміліся ад палітыкі? Аднолькавыя твары, аднолькавыя спрэчкі, нават пройгрышы падчас выбарчых кампаній заўсёды аднолькавыя!**

— Сапраўды, можна стаміцца. Тым больш што кожны чалавек, якую б працу ён ні рабіў, хоча гісторыі поспехаў. Не важна, настаўнік гэта, палітык ці хатняя гаспадыня. І беларускай апазіцыі вельмі гэтага не хапае.

Але, з іншага боку, як паказвае гісторыя, жорсткія аўтарытарныя рэжымы існуюць даволі доўга. Таму, калі мы хочам, каб адбыліся перамены, каб нашы дзеці і ўнукі не з’язджалі з краіны, жылі тут прыстойна і маглі сябе рэалізаваць, трэба сціснуць зубы і працаваць.



Я магу толькі адзіны папрок зрабіць беларускай апазіцыі, і сабе ў тым ліку: нельга ўвесь час казаць, што ва ўсім, што сёння адбываецца, вінавата толькі дыктатура. Наша доля адказнасці тут таксама ёсць. Таму апазіцыя, нягледзячы ні на што, мусіць працаваць над сваёй якасцю, павінны з’яўляцца новыя твары, лідары. Хаця ў тых умовах, што ёсць, добра, што ўвогуле апазіцыя існуе.

**— Я апошнім часам думаю: а ці існуе?**

— Апазіцыя можа мець розныя маштабы і характарыстыкі. Доктар і калгаснік, якія не згодны з тым, што робіць улада, — гэта таксама апазіцыя.

Канешне, больш за ўсё папрокаў чуецца ў адрас палітычнай апазіцыі. Але яна будзе моцнай, прыгожай і годнай толькі тады, калі будзе спаборніцтва, у якім яна ўдзельнічае і дэманструе свае якасці. Я часта кажу, што Мілінкевіч і іншыя — гэта не палітыкі, а каментатары, аналітыкі, а сапраўдная апазіцыя павінна браць сур’ёзны ўдзел у вырашэнні праблем у краіне. А мы такой магчымасці не маем.

**— Карацей, адказу на пытанне, ці застаняцеся вы старшынёй Руху «За Свабоду», не атрымала, але хоць прыемна пагаварылі пра жыццё...**

— Мы проста зараз якраз дыскутуем пра тое, як лепш пабудаваць Рух, аптымізаваць яго работу. Але я адно скажу: я нікуды не скокну і не знікну, нават калі ў кіраўніцтва прыйдуць новыя людзі. І дакладна магу сказаць: калі арганізацыю ўзначаліць нехта іншы, у нас не будзе скандалаў з гэтай нагоды.

# «За свабоду думкі» – у Мазынскага



**19 чэрвеня адбылося ўрачыстае ўручэнне прэміі «За свабоду думкі» імя Васіля Быкава, заснаванай Рухам «За Свабоду» ў 2007 годзе. Сёлета яе атрымаў рэжысёр Валерый Мазынскі.**

Нагадаем, гэтай прэміяй узнагароджваюцца асобы, якія праявілі сябе грамадскай і творчай дзейнасцю на карысць Беларусі і Свабоды. Выбітныя беларусы станавіліся лаўрэатамі ў 2008-2015 гадах: Рыгор Барадулін, Уладзімір Арлоў, Павел Севярынец, Алесь Пушкін, Ада Райчонак, Уладзімір Някляеў, Лявон Вольскі і Алесь Белакоз, Зміцер Вайцюшкевіч і Алесь Марачкін, Віктар Шалкевіч, Ніл Гілевіч. Тыя з іх, хто яшчэ з намі, увайшлі ў склад журы, якое вызначыла сёлетняга лаўрэата.

Святочная імпрэза прайшла ля дома-музея Васіля Быкава ўдзень яго народзінаў і на яго радзіме - у вёсцы Бычкі Ушацкага раёну Віцебскай вобласці.

Старшыня Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч у сваёй прамове патлумачыў, чаму прэмія называецца менавіта «За свабоду думкі». Па яговых словах, думка заўсёды павінна стаяць перад дзеяннем і свабода думкі быць першаснай. Чалавек, які свабодны ў сваіх думках, здольны на годныя і адважныя ўчынкі, дадаў старшыня Руху.

«Для нас гэтая прэмія — гэта сапраўды такая прэмія, як сонечнае мерапрыемства — такое душэўнае, прэмія ад сэрца, неафіцыйная і ўручаецца яна не ў палацах, а тут вось у быкаўскіх месцах», - кажа Мілінкевіч.

Рашэнне журы абвясціў гісторык, пісьменнік і лаўрэат прэміі «За свабоду думкі» Уладзімір Арлоў.

Па яговых словах, ён знаёмы з Валерам Мазынскім «большую частку свайго жыцця — 40 гадоў, з 1976 года, калі Валер стаў галоўным рэжысёрам Коласаўскага тэатра ў Віцебску і займаў гэтую пасаду да 1989 года».

«Гэта былі шчаслівыя для нас, палачан, я тады жыў яшчэ ў Полацку, гады. У нас заўсёды гэта былі глыткі паветра, калі мы ехалі на спектаклі, пастаўленыя Валерыям Мазынскім, праграмнымі яго спектаклямі сталі «Званы Віцебска» і «Кастусь Каліноўскі» паводле п'ес Уладзіміра Караткевіча. І наш клуб творчай мо-









ладзі «Маладзік» 6 раз ездзіў на кожны з гэтых спектакляў. І іх узнёсласць, метафарычнасць, іх сімвалізм проста натхнялі нашы юныя душы. Я памятаю, калі там са сцэны гучаў пароль паўстанцаў «Каго любіш?» — «Люблю Беларусь!», то ўзаемна ў зале апладысменты заўсёды ўзнікалі. І ў той час Валерый таксама стаў заснавальнікам беларускага тэатра лялек. Гэта таксама яго вялікая заслуга, што ў Віцебску ёсць яшчэ і лялечны тэатр», — прыгадаў Арлоў.

Потым, дадаў гісторык, «пачаўся новы перыяд у яго жыцці, калі Валеры стварыў і узначаліў Тэатр беларускай драматургіі „Вольная сцэна«, які вельмі хутка заняў сваё адметнае месца ў панараме беларускай культуры, і там таксама былі пастаўленыя шэраг выдатных спектакляў, іх шмат хто з прысутных ужо больш маладзейшых памятае гэтыя спектаклі».

«Але, як кажуць, вялікія дрэвы прыцягваюць маланкі. У Валерыя пачаўся складаны перыяд, перыяд выпрабаванняў, яго адлучылі ад створанага ім жа тэатру. Але выпрабаванні Валерыя, як мы бачым, не зламалі, а толькі загартавалі, і ён знайшоў сябе цяпер у кіно. Вы ведаеце яго фільмы пра аднаго з лідараў антысавецкага супраціву пасляваеннага Вячаслава Лапіцкага, пра Саюз беларускіх патрыётаў, створаны як раз вось на гэтай віцебскай зямлі студэнтамі Глыбоцкай і Пастаўскай педвучэльняў у 40-выя гады, фільм пра Каліноўскага — адна з апошніх прац шаноўнага Валерыя», — распавёў Арлоў.

«Галоўная мара мая, яна, канечне, баюся, не здзейсніцца пры маім жыцці, але самая галоўная мара, калі б падчас вялікага выпрабавання мы здолеем з вамі ўзяцца за рукі ад Брэста да Воршы і дзе-небудзь ад Браслава туды, да Чарнобыля, і стварыць гэты жывы крыж. Вось тады нас ніхто з вамі не пераможа. Гэта мая мара», - сказаў лаўрэат прэміі «За свабоду думкі» 2016 году Валерый Мазынскі.





# «Захоўвай чысціню, Беларусь — не Расея!»

**Грамадская кампанія пад такім дэвізам стартавала ў Баранавічах па ініцыятыве мясцовага аддзялення Рух «За Свабоду». Актывісты прапануюць грамадзянам выкарыстоўваць беларускія сімвалы і адмовіцца ад замежных, у тым ліку ад георгіеўскай стужкі.**









«Захоўваць чысціню — значыць, шанаваць і выкарыстоўваць нашыя нацыянальныя сімвалы і не прымаць чужых, хай сабе і сяброўскай нам краіны. Мы павінны быць адметнымі ў свеце праз сваю мову і нашыя спрадвечныя і гістарычныя сімвалы і знакі», — распавёў старшыня баранавіцкай суполкі руху Уладзімір Гундар.

Грамадская кампанія баранавіцкіх актывістаў, па іх словах, мае дзве задачы - данесці да Баранавічанаў інфармацыю пра Рух «За Свабоду» і давесці людзям, што «каларадская» (гэтак званая «георгіеўская») стужка з'яўляецца сімвалам сучаснага расійскага імперыялізму і прапаганды вайны.

«Ведаю, што не ўсе, хто ўпрыгожвае свае машыны каларадскімі стужкамі, з'яўляюцца прыхільнікамі так званага „рускага свету«, некаторыя робяць гэта з пустога пераймання, нехта бачыць у гэтым нешта моднае, камусьці проста падабаецца такі дэкор», — адзначыў сябра Руху «За Свабоду» Юрый Казакевіч.

Па ягоных словах, гэтыя людзі не бачаць у гэтым сімвале нічога кепскага, не ўспрымаюць як сімвал імперыялістычнай пагрозы, якая сыходзіць ад суседняй краіны. «Як правіла, пасля спакойнай размовы такія людзі здымаюць стужкі і больш іх не выкарыстоўваюць. Ёсць, канечне, і іншыя, якія нахабна дэманструюць, што з гатоўнасцю стануць на бок агрэсара пры першай магчымасці», — адзначыў актывіст Руху.

Між тым, пасля звароту сябра Рады Руху «За Свабоду» Віталя Амяльковіча ў Слуцку пакаралі кіроўцаў аўтобуса, якія размесцілі на лабавым шкле расійскі сцяжок. Скаргу на размяшчэнне на шкле аўтобуса расійскага сцяжка сябра Рады Руху «За Свабоду» накіраваў 19 траўня. Гаворка вялася пра парушэнні бяспекі руху транспартных сродкаў, недапушчальнасць выкарыстання грамадскага транспарту дзеля прапагандзе сумнеўнай прапаганды і недапрацоўку ў выхаваўчым накірунку ідэалагічных працаўнікоў.

У аўтобусным парку № 2 прызналі, што размяшчаць любыя прадметы на лабавым шкле аўтобуса забаронена правіламі дарожнага руху.

Газета выдаецца Рухам «За Свабоду». Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 10.07.2016 г. Кантакты рэдакцыі: тэлефон +375 17 2808863, е-пошта info@pyx.by